Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 12 (100) | Вільня, 12-га верасьня 1936 г. | Год 4-ты.

## У трыццатыя угодкі.

14 верасьня па новаму стылю, або 1 верасьня па старому стылю сёлета мінае 30 гадоў ад таго часу, калі ў сьвет выйшаў першы нумар легальнай беларускай газэты „Наша Доля".

Гэты дзень лічыцца беларускім сьвятам, бо-ж ён зьяўляецца як-бы паваротным пунктам у гісторыі беларускага адраджэньня.

Сяньня, калі ў нас выходзіць ажно некалькі газэт і часапісаў у роднай мове, трудна ўявіць сабе тое палажэньне, якое было ў нас перад зьяўленьнем „Нашае Долі".

Расейскі царскі ўрад, які ўціскаў усе меншасьці, знаходзячыяся ў межах расейскае імпэрыі, вельмі няпрыхільна адносіўся да ўсяго беларускага. Між іншым было забаронена ўсялякае друкаванае беларускае слова. Так трывала аж да першай расейскай рэвалюцыі ў 1905 годзе, калі прыгнечаныя царызмам народы пачуліся трохі вальнейшымі.

Рэвалюцыя 1905 году адбілася галосным рэхам і на беларускім жыцьці. Усе сьвядомыя беларусы заварушаліся і энэргічна ўзяліся за працу, за буджэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод сялянскіх беларускіх гушчаў. Беларуская інтэлігенцыя, згрутаваная ў Вільні, пачала выдаваць газэту „Наша Доля".

Уражаньне зьяўленьня першай газэты ў беларускай мове было вялікае.

Абмаскаленыя расейцамі, беларусы па паходжаньні, вураднікі-чыноўнікі, якіх у Вільні было шмат, з вялікай цікавасьцяй аднесьліся да першай беларускай газэты. Газэту раскуплівалі нарасхват, плацячы за яе часам вялікія грошы.

Беларускія інтэлігенты віншавалі адны другіх са зьяўленьнем сваёй газэты, як з вялікім сьвятам.

Аднак газэта выходзіла нядоўга. Усяго было выдадзена 6 намяроў, з якіх ажно 5 царская паліцыя сканфіскавала за нібы рэвалюцыйны зьмест.

Але пачатая праца ня спынілася і ў лістападзе таго-ж году пачала выходзіць новая беларуская газэта „Наша Ніва", якая выдавалася цераз некалькі год, да восені 1915 году.

Калі кінем вокам на гэныя трыццаць гадоў, якія прайшлі ад дня выхаду ў сьвет першай беларускай газэты, то пабачым, што за гэты час для беларускага адраджэньня зроблена шмат. Цяпер друкаванае беларускае слова не абмінае нават самых глухіх куткоў нашае бацькаўшчыны.

Аднак далёка ня ўсё зроблена за гэныя трыццаць гадоў, што можна было-б зрабіць, бо-ж пэўная частка нашае інтэлігенцыі адыйшла ад працы, ці-то трацячы веру ў пасьпех агульна-беларускае справы, ці то паддаючыся чужым уплывам.

Але на падмогу ў працы старэйшым беларускім інтэлігентам зьяўляюцца новыя маладыя сілы, блізка стаячыя да беларускіх гушчаў і добра разумеючыя іх патрэбы.

Вось чаму мы можам сьмела глядзець у будучыню, можам быць пэўнымі, што гэная будучыня прынясе нам зьдзейсьненьне нашых надзеяў.

## Як бальшавізм завёўся ў Беларусі?

У час, калі аднаалітная дасюль расейская камуністычная партыя трашчыць і колецца на часьці, калі за расстрэлам 16-ёх „троцкістых" у Маскве пайшлі разрухі па ўсім СССР, варта прыпомніць нашым чытачом, як зьявіўся і завёўся бальшавізм сярод беларускіх сялянскіх масаў, здавалася-б гэтак чужых для бальшавіцкае крывавае тактыкі, а нават і для самое камуністычнае ідэолёгіі.

Прыдзе калісь да голасу нармальны небальшавіцкі гісторык нашых чорных дзён і высьвятліць парушанае тут пытаньне ўсебакова. Абавязак кожнага, хто бачыў сваімі вачыма наступ бальшавізму на Беларусь, пакінуць хоць жменю занатаваных фактаў з бурнае сучаснасьці.

Насьбітам тае ці іншае ідэолёгіі ў народзе зьяўляецца яго інтэлігенцыя.

І сярод невялікае лікам беларускае інтэлігенцыі ня толькі ў лютаўскую расейскую рэвалюцыю, але і пасьля бальшавіцкага перавароту, ў кастрычніку 1917 году, ня было аніводнае бальшавіцкае душы.

Ня трэба даказваць, што пазьнейшыя беларусы-бальшавікі зьяўляюцца толькі рэфлексам маскоўскага бальшавізму. Яны толькі паслугачы пры калясьніцы трыумфатараў Кастрычніка — разьвіцьцё падзеяў не залежала ад іхняй волі, ад іх імкненьняў.

Адразу пасьля бальшавіцкага перавароту 25-26 кастрычніка (7 лістапада) 1917 году ў Петраградзе, пакацілася шырокая хваля падобных мясцовых пераваротаў па ўсім вялізарным абшары былое Расеі. Натуральна зусім, што дакацілася гэтая хваля і да Менску, вялікага на той час ваеннага цэнтру, бо ў ім знаходзіўся штаб расейскага заходняга фронту, а ня вельмі далёка ад яго (у Магілёве) была галоўная кватэра (стаўка) ўсіх расейскіх збройных сілаў.

— Не беларусы рабілі ў Менску бальшавіцкі пераварот.

Верныя свайму імпэрыялістычнаму цэнтралізму, менскія бальшавікі твораць *Совет Народных Комиссаров Западной Области и Фронта*, на чале з латышом Ландэрам, ваенным камісарам Мясьніковым, другім латышом Рэзаўскім (унутраныя справы). Сярод меншых фігураў першага менскага „*областно-фронтового совнаркома*" бачыць можна было Калмановіча (харчовыя справы), Розэнталя (фінансы), Бэрсона (нацыянальныя справы), нядаўна расстралянага ў ліку 16-ёх Пікеля і матроса Муху (апека).

Муха — адзіны беларус сярод тагачасных менскіх дыктатараў, аднак і ён не-бальшавік, а левы расейскі эс-эр. А як вядома, левыя эс-эры моцна памаглі бальшавіцкаму перавароту. Вельмі хутка ашуканыя бальшавікамі, яны паднялі пасьля геройскі бунт проці іх у Маскве і панясьлі поўнае паражэньне.

У Менску слабою была ўлада бальшавіцкіх камісараў. Яна не пасьмела забараніць беларускім арганізацыям — Вялікай Радзе і Вайсковай Радзе — склікаць Ўсебеларускага Зьезду (5 сьнежня — ст. стылю — 1917 году).

Аднак ня сільнейшымі былі і беларускія арганізацыі, бо як вядома, 18 сьнежня 1917 г. Усебеларускі Зьезд быў разагнаны бальшавіцкімі збройнымі сіламі пад камандай камісараў: Рэзаўскага і Крывашэіна (нач. гарнізону).

Матрос Муха там-жа на разганяным 18.XII.1917 г. Зьезьдзе злажыў свой камісарскі мандат, на знак пратэсту проці бальшавіцкага гвалту. Жэст зусім зразумелы з боку беларуса-народніка, бо Усеб. Зьезд складаўся з сярмяжнага сялянства і апраненых у салдацкія шынэлі сыноў яго. Гэты бясспрэчны факт не пашкодзіў аднак бальшавіком разводзіць сваю спрытную дэмагогію аб зьездзе беларускіх «помещиков и буржуазии", каб апраўдаць голы маскоўскі гвалт над беларускаю народнаю воляю.

На Усебеларускім Зьездзе адкрыта называў сябе *беларускім* бальшавіком адзін толькі Шантыр. На двутысячны масыў Зьезду гэта азначала хіба што менш нават, як ноль.

Шантыр аднак не адыграў паважнейшае ролі на паслугах бальшавізму. У часе нямецкай окупацыі Менску, пачалі зьяўляцца ў Петраградзе, пераехаўшыя затым у Маскву, новыя, спакушаныя бальшавізмам, беларускія душы, быўшыя і на Усебеларускім Зьездзе — Чарвякоў, Лагун, Усьціловіч і Жылуновіч з закладзенай для яго бальшавіцкаю газэтаю ў Маскве — „Дзяньніцаю".

Гэтая „Дзяньніца" і маскоўскі камісарыят для беларускіх справаў Чарвякова разьвілі агромную бальшавіцкую агітацыю сярод пазбаўленых роднага грунту масаў беларускіх уцекачоў, якія параскіданы былі ваеннай бурай па ўсёй Расеі, а таксама сярод работнікаў-беларусаў петраградзкіх заводаў, матросаў і салдатаў.

Пасьля выхаду немцаў з Менску (9.XII.1918 г.) ізноў уваліліся туды бальшавіцкія камісары: Мясьнікоў, Крывашэін, Бэрсон, Калмановіч, Пкель. 1-га студня 1919 г. Масква разьдзяліла ўладу гэтых сваіх менскіх камісараў паміж імі і беларускімі фігурантамі: Жылуновічам, Чарвяковым, Фальскім і Шантырам. Жылуновіч быў нават назначаны прэзэсам „рабоче-крестьянского правительства" Беларусі. Праўда, на вельмі кароткі час.

Урад Жылуновіча хоць і вяла, але згуляў сваю ролю прыказковага маўра. Пасьля яго замены, Мясьніковы, Ціхоўскія, Крывашэіны, Бэрсоны і Калмановічы падаўнейшаму глядзелі на Беларусь, як на расейскую „западную область", лучылі яе, пасьля заняцьця Вільні, з чырвонаю Літвою ў г. званы „Літбел" і наагул рабілі сваю справу бяз ніякіх беларусаў, калі ня лічыць Чарвякова, зьведзенага да ролі памоцніка народнага камісара асьветы ў Беларусі.

Цікава аднак, што, стаўляючы на час галавою менскага ўраду Жылуновіча, бальшавікі выпусьцілі свой „маніхвэст", у якім успамінալі пра *незалежнасьць* Беларусі. Гэта ім ані не перашкодзіла, хутка скінуўшы Жылуновіча, замяніць беларускую „незалежнасьць", на нячуваны новатвор — „Літбел".

Варта зазначыць, што нават за кароткі час „фігураваньня" Жылуновіча, ўсё бальшавіцкае ўрадаваньне ў Менску адбывалася парасейску, што асабліва падчыркваў у сваім камісарыяце заграічных справаў Фальскі.

Праўда ў клюбе III інтэрнацыяналу ставілася часам „Паўлінка", а добра з'іграны аркестар Тхоржа памастацку выконваў беларускія попуры з „Лявоніхай" у цэнтры. Спэктаклі адбываліся ў „высочайшем присутствии" самога Жылуновіча. Мясьніковым, Пікелям ды Калмановічам ня было чаго туды хадзіць.

Насоўвалася на іх новая пагроза з Захаду — Польшча, сілаю якой яны 8 жніўня 1919 году былі выкінены ў сваю маскоўскую радзіму.

Толькі пасьля польска-бальшавіцкай вайны і рыскага міру Масква не паскупілася на больш сур'ёзны і шчодры засеў беларускае культуры ў Менску. Сілаю рэчаў бальшавізм знайшоў болей шырокае ўспрыняцьце сярод трапіўшай пад маскоўскую ўладу беларускай інтэлігенцыі. Стварыўся ў Менску моцны беларускі цэнтр прыцяганьня, а гэта шырокім рэхам адбілася, як на захадзе ад рыскае мяжы, таксама і сярод нязначнае лікам беларускае эміграцыі.

Вун скуль і як заведзены быў чужацкаю сілаю бальшавізм у Беларусі. Ні яе соцыяльная структура, ні псыхіка яе інтэлігенцыі, ні здаровы нацыянальны рух, буйна вырасшы пасьля лютаўскае расейскае рэвалюцыі — нішто нашае ня мела ніякага сваяцтва з бальшавізмам.

На пацьверджаньне гэтага, ў часе рыскіх мірных перагавораў збройна загаварылі народна-рэспубліканскія сілы беларускага сялянства на тэатры Слуцкага паўстаньня, якое бальшавікі чамусьці валяць у адну кучу з мазырскім паходам Балаховіча. Дарэмна! Самастойнае спробы Беларускага Народу сілаю даць адпор маскоўскаму бальшавізму ня ўдасца з гісторыі выкінуць.

Скажа гісторыя напэўна і пра тое, як, адначасна з слуцкім паўстаньнем, у Рызе ціхенька сядзеў менскі „прэзыдэнт“ А. Чарвякоў, „упаважніўшы“ Іоффэ і Оболенскага падпісаць ганьбу Беларусі.

Маскоўска-назначэнскага сэрца Чарвякова ня стрывожыў шчыра-рэспубліканскі народны рух на фронце Слуцка.

І рух беларускі ўваскросьне з новай сілай, калі надойдзе ў СССР блізкі ўжо, як шмат дзе хто праракуе, грозны і сьмяротны для бальшавізму Тэрмідор. (9-га тэрмідора, або 27-га ліпня 1794 году ў Францыі быў скінуты Робэсп'ер і пачаўся канец тэрору).

*Незалежнік.*

## Найгоршыя ворагі Сталіна камуністы.

Супрацоўніку газэты „Возрожденія“ удалося пабачыцца з пэўнай асобаю, якая прыбыла з Масквы ўжо пасьля растрэлу 16-цёх.

Асоба гэтая, добра ведаючая камуністычныя кругі СССР, казала што, самому працэсу ў Маскве не прыдавалі асобага значэньня, бо-ж Зінаўёва судзілі ўжо ня першы раз. Зразумела, што ўсе чакалі сьмертнага прысуду, але ніхто ня думаў, што ён будзе выкананы. Камуністычная Масква і ўвесь Саюз, проста ахнулі, калі даведаліся аб выкананьні прысуду.

Цяпер кожны камуніст дапушчае, што і яго на аснове хаця-б звычайнага ілжывага даносу могуць схапіць і змусіць да ўсякіх паказаньняў. Ня трэба забываць, — казала далей гэтая асоба, — што ў партыі заўсёды існавала нездаваленьне палітыкай Сталіна. Большасьць нездаволеных умела дагэтуль прыстасоўвацца. Яны часамі „каяліся“, але большасьць, як вопытныя царадворцы, не выяўлялі сваіх паглядаў і настрояў. Ясна, што засталіся нязлоўленымі самыя вопытныя камуністы, гэта знача найбольш небясьпечныя.

Цяпер яны напужаны і прыціхлі. Камуністы, у каторых засталося хоць крыху ідэйнасьці, ніколі не забудуць, што зрабіўСталін. Партыйнае адзінства назаўсёды размыта крывёю Зінаўёва і Каменева. Яго ўжо больш ня зьлепіш. Цяпер усе камуністы дзеляцца на дзьве групы: адна —гэта тыя, якіх прасьледуюць, другая — гэта тыя, якія прасьледуюць. Але зразумела, ня ўсе паддаюцца.

Пакуль што яны маўчаць і абдумываюць плян дзеяньня, плян барацьбы... Шмат хто з іх вельмі добрыя конспіратары і яны ня выдадуць сябе. Яны цярпліва будуць чакаць адпаведнага мамэнту і нанясуць удар пры першай магчымасьці. Яны былі выхаваны на традыцыях старой гвардыі, на законах Ільіча (Леніна) — не разбураць адзінства і не праліваць камуністычнай крыві. Усё гэта цяпер разбурана Сталіным. Цяпер шмат для каго з іх меншавікі, а нават несоцыялісты, лепшыя за Сталіна.

Яны ненавідзяць гэтага чалавека і чакаюць...

## Чуткі аб хваробе Сталіна.

Супрацоўнік францускае газэты „Матэн“ паведамляе з Масквы, што Сталін цяжка хворы. Палажэньне яго настолькі цяжкое, што бліжэйшае акружэньне нават лічыцца з магчымасьцяй яго сьмерці, якая можа наступіць у кожны мамэнт.

## Варашылаў у Менску.

8 г. м. прыбыў у Менск нарком абароны Варашылаў. У прысутнасьці наркома адбыліся вялізарныя манэўры часьцяў Беларускага вайсковага вокругу. Разам з наркомам прыбылі вайсковыя дэлегацыі Францыі, Англіі і Чэхаславаччыны.

**Уступайце як сябры ў ТБА**

## Эўрапэйскія соцыялісты аб сталінскім тэроры.

Вядомы аўстрыйскі соцыяліст Отто Баўэр, які зьяўляецца сябрам Выканаўчага Камітэту 2-га Інтэрнацыяналу, апублікаваў артыкул, у каторым піша пра расстрэл 16-цёх прыхільнікаў Троцкага:

„Няўжо-ж у Маскве не разумеюць, якія страшныя пытаньні маральнага парадку ставіць перад сьветам гэты працэс“...

Газэта францускіх соцыялістаў „Попюлер“ у палеміцы з маскоўскаю газэтаю „Правда“ стаўляе пытаньне:

— Ці не таму гэтак зазлавала „Правда“, што камітэт ІІ Інтэрнацыяналу папрасіў праліць крыху сьвятла на гэты цёмны працэс?

— Нават і цяпер, пасьля расстрэлу абвінавачаных, — (піша „Попюлер“ далей)—прызнаўшыхся гэтак сумна да сваіх праступленьняў, не разьвеялася цяжкая атмасфэра працэсу. *Зіноўеў і яго суседзі на лаве падсудных ня трымалі сябе, як нармальныя людзі.* Ува ўсе часы і пад усімі шыротамі ўлада аддае пад суд сваіх палітычных ворагаў, але ніколі яшчэ падсудныя не прараблялі таго, што ў Маскве. Калі Дантон і Каміль Дэмулен стаялі перад рэвалюцыйным трыбуналам, дык яны ня білі сябе ў грудзі і ня крычалі: „Робэсп'ер мае рацыю!“

Францускія прыхільнікі Троцкага пішуць яшчэ вастрэй:

— Сталін,— кажуць яны, — ў паніцы і дзеля гэтага ён б'е направа і налева. Цяпер ён ударыў па нашых прыяцялёх, у чарговы раз ён можа ўдарыць па групах, якія стаяць ад яго направа. Дый для Сталіна няма правых і левых. Ён проста б'е па ўсіх, хто яму нявыгадны, і зьніштажае іх самым рашучым спосабам. Ён трымаецца толькі сваім апаратам, пры чым апарат гэты з кожным днём звужваецца. Пролетарыят у СССР нездаволены з палітыкі Сталіна. *Варункі жыцьця работнікаў вельмі цяжкія.* Уся задача Сталіна — ўтрымацца пры ўладзе якой-бы ні было цаною. Пасьля забойства 16-ёх зіноўеўцаў, Сталін „скончаны чалавек“.

Газэта чэскіх соцыяль-дэмакратаў „Право Ліду“, ў артыкуле „Савецкі бонапартызм перамог“, піша:

„Троцкі доўга гаварыў пра небясьпеку бонапартызму ў вялікай расейскай рэвалюцыі і не памыліўся ў гэтым: у СССР бонапартызм атрымаў перамогу. Старая бальшавіцкая гвардыя ўхілена. Ухілена ўсё ленінскае палітбюро. Хто застаўся з яго? Сам Ленін няжывы, Троцкі ў выгнаньні, рэшта сяброў палітбюро — халодныя трупы са сталінскаю куляю ў целе. У сядла застаўся толькі Сталін—новы „медны коньнік“, „расейскі Бонапарт“.

Дзіўны гэты вывад чэскіх соцыяль-дэмакратаў. Калі мянюшка Пётры Вялікага хоць крыху да Сталіна і падходзіць, дык раўняць яго з Напалеонам I усё-ж такі зашмат для Сталіна чэсьці.

## Абісынія будзе выключана з Лігі Нацыяў

Жэнэўскія корэспондэнты мясцовых газэтаў цьвердзяць, што пытаньне аб выключэньні Абісыніі са складу сяброў Лігі Народаў ужо вырашана. Сэкрэтар Лігі Авэноль вядзе ў сучасны мамэнт перагаворы ў гэтай справе з прадстаўнікамі італьянскага ўраду. Апошні заяўляе, што італьянскія дэлегаты не зьявяцца ў Лізе Народаў да таго часу, пакуль у залі паседжаньняў Лігі будзе прысутнічаць хаця-б... цень Нэгуса.

Авэноль ужо прыбыў у Рым, відаць, перагаварыўшы перад гэтым з прадстаўнікамі Англіі і Францыі.

## Паездка ген. Рыдз-Сьміглага ў Францыю

Як ведама, да 1926 году замежная палітыка Польшчы апіралася выключна на цесным Саюзе з Францыяй. Праціўнікам гэткага становішча Польшчы зьяўляўся маршалак Пілсудскі і нічога дзіўнага, што пасьля адабраньня ўлады ад Эндэцыі паступова пачаў зьмяняць палітыку Польшчы ў напрамку зьбліжэньня да Нямеччыны. Поўнае супрацоўніцтва з Нямеччынай наступіла ў 1934 годзе, пасьля падпісаньня пакту аб ненападаньні на 10 гадоў, а потым гандлёвага дагавору. Палітычныя кругі пачалі падазраваць, што Польшча зусім зрывае з Францыяй і будзе памагаць Нямеччыне ў зьдзейсьненьні яе ўсходніх плянаў. Аднак польскія дзяржаўныя кіраўнікі заяўлялі ўсьцяж, што падпісаны пакт з Нямеччынай не азначае зрыву з Францыяй і што Польшча надалей зьяўляецца вернай саюзьніцай Францыі. Так гаварылася, але ўсе думалі інчай.

Сяньня, прыезд францускага ген. Гамэлена ў Польшчу, і рэвізыт генэральнага інспэктара польскае арміі ген. Рыдз-Сьміглага ў Францыі, даюць нам магчымасьць сьцьвердзіць, што тыя, каторыя ўважалі зрыў Польшчы з Францыяй дакананым—памыліліся.

Судзячы па газэтным весткам, візыт ген. Рыдз-Сьміглага прынёс вельмі значныя вынікі. Перадусім асабісты кантакт з старшынёю і сябрамі францускага ўраду, а такжа і з камандаваньнем францускае арміі зьяўляецца замацаваньнем і пацьверджаньнем трывалкасьці француска - польскага саюзу.

У часе даволі доўгіх перагавораў былі апрацаваны тэксты ня толькі даволі падрабязнага вайсковага, але і палітычнага пратаколаў.

Цікава падчыркнуць, што асобым дагаворам значна пашыраны межы польска-францускага тэхнічнага і фінансавага супрацоўніцтва.

Зразумела, што як вынік паездкі ген. Рыдз-Сьміглала, зьяўляецца нязвычайнае ажыўленьне ў галіне польска-францускіх фінансавых і гандлёвых перагавораў. У Парыжы вядуцца перагаворы дырэктарам Польскага Банку Баранскім і кіраўніком замежнага крэдытнага аддзелу гэтага-ж банку Доманеўскім. Справа ідзе, між іншым, аб вялікай пазычцы ў Францыі на вааружэньне польскае арміі. У выніку ўсіх перагавораў у Варшаву мае ў хуткім часе прыехаць францускі міністар фінансаў для канчальнага вырашэньня гандлёва-гаспадарчых адносінаў між саюзьнікамі.

Варта падчыркнуць яшчэ і тое, што ў часе ўсіх гэтых перагавораў прысутнічаў у Парыжы б. міністар замежных справаў Польшчы А. Залескі, які мае ў Францыі даволі вялікія сувязі і ўплывовых прыяцеляў.

## Перад крызысам габінэту Блюма?

Бэрлінскія палітычныя кругі атрымалі вестку аб тым, што францускія камуністы павялі кампанію супроць габінэту Блюма, зразумела, па інструкцыі чырвонага Крэмлю. Кампанія гэтая зьяўляецца вынікам таго глыбокага разыходжаньня між соцыялістамі і камуністамі, якое давалася заўважыць у апошнія часы. Вялікую ролю ў гэтым адыграў, візыт ген. Рыдз-Сьміглага, які значна прычыніўся да аслабленьня француска-савецкіх адносінаў.

У Бэрліне ўважаюць, што гэты палітычны крызыс давядзе да адыходу габінэту Блюма ў самай блізкай будучыне.

Сярод рабочых масаў таксама ўзмацняецца рух проці ўраду. У асаблівасьці, у апошнія дні гэтае нездаваленьне выявілася ў форме забастовак у Клермонце і Страсбургу. Бастуючыя рабочыя не пакідаюць фабрычных будынкаў.

## Зьезд нацыянал-соцыялістычнай партыі ў Нюрэнбэргу.

9-га г. м. адчыніўся зьезд нац.-соцыял. партыі ў Нюрэнбэргу. Прыбыўшых на зьезд налічваецца каля 300.000 чалавек. Бурмістар Нюрэнбэргу Лібэль на прыйме ў ратушы, арганізаваны Гітлерам, пасьля прамовы ўручыў канцлеру падарунак ад імя гораду — сябрэбраную скрынку, у якой знаходзіцца абаронны плян Нюрэнбэргу з 1512 году.

25 г. м. пасьля нюрэнбэрскага зьезду ў паўдзённай Нямеччыне адбудуцца вялікія манэўры, на каторых будзе прысутнічаць канцлер Гітлер.

Францускія кругі ў сувязі са зьездам цьвердзяць, што Гітлер зьвернецца да народу ўсяго сьвету з заклікам аб стварэньні абароннага фронту проціў камуністычнай небясьпекі. Кажуць, што Гітлер намераны паставіць Францыі „мірны ўльтыматум“ і дамагацца ад яе зрыву француска-савецкага пакту.

Чакаюць таксама, што ў Нюрэнбэргу будзе абвешчана, так званая, вялікая дзяржаўная рэформа. Кажуць, што пасьля нюрэнбэргскага кангрэсу ўсе паасобныя ўрады — Баварыі, Прусіі, Вюртэнбэргу і т. д. будуць зьліквідаваны і Нямечч. будзе падзелена на асобныя акругі, каторымі будуць кіраваць урадоўцы з Бэрліну. Засяг акругоў будзе пакрывацца з засягам вайсковых акругоў.

Нюрэнбэрскі „партайтаг“ (партыйны дзень) станецца адначасна і вялікай вайсковай маніфэстацыяй. Апошні дзень кангрэсу будзе прысьвячоны арміі. У вайсковай рэвіі прымуць учасьце 20 тысячаў салдатаў, 2200 танкаў і змотарызаваных гарматаў і 400 самалётаў.

## Англія—Палестына.

Ангельскі міністар калёніяў выступіў з афіцыяльным паведамленьнем, у каторым заяўляе, што брытанскі ўрад прыняў усе меры дзеля мірнага вырашэньня палестынскага конфлікту. Аднак ён (урад) ня можа дапусьціць да таго, каб арабы маніліся і надалей уплываць на ангельскую палітыку ў Палестыне шляхам гвалтаў і пагрозаў. Дзеля гэтага Англія прыйме такія меры, каторыя паложаць канец доўгатрываючым непарадкам. З гэтаю мэтаю ў Палестыну будзе выслана новая дывізыя.

Ангельскія газэты прыдаюць вялікае значэньне заяве міністра калёніяў і думаюць, што гэткая палітыка цьвёрдай рукі хутка навядзе парадак.

Назначэньне генэрала Дзільля галоўнакамандуючым брытанскімі ваяружонымі сіламі ў Палестыне выклікала вялікае ўражаньне.

Ген. Дзіль, векам 55 гадоў, зьяўляецца адным з найбольш выдатных сярод ангельскіх вайсковых кіраўнікоў.

Дасюлешняга вярхоўнага камісара ў Палестыне ангельскі ўрад мае адклікаць і вызначыць іншага.

## Нямеччына дамагаецца калёніяў.

У „Эйропэїше Рэв'ю“ зьмешчаны артыкул, у каторым старшыня нямецкага калёніяльнага саюзу ген. Эпп сьцісла апісывае нямецкія дамаганьні ў справе калёніяў. Ен заяўляе, што Нямеччына дамагаецца звароту ўсіх калёніяў, якія былі адабраны ад яе вэрсальскім дагаворам. Нямеччына не выказывае ніякіх прэтэнзыяў на калёніі, якія знаходзяцца ў уладаньні Португаліі і Бэльгіі, але ня можа задаволіцца прапазыкай Самуэля Хора ў Жэнэве аб скліканьні канфэрэнцыі дзеля ўрэгуляваньня пытаньня аб справядлівым падзеле суровых тавараў.

У бліжэйшай будучыне будзе разьвіта шырокая палітычная прапаганда на карысьць звароту Нямеччыне калёніяў.

# Забытая справа.

(Гл. № 11 „Роднага Краю“).

Добра арганізаваныя коопэратывы могуць адыграць вельмі паважную ролю ў палепшаньні нашага вясковага жыцьця, бо-ж коопэратывы адсунуць ад сялянства цэлы рад гандлёвых пасярэднікаў, якія так шмат зарабляюць на нашай неарганізаванасьці. Дзеля гэтага неабходна арганізацыя ня толькі коопэратываў, ў якіх можна купляць патрэбныя тавары, але і коопэратываў збыту сялянскіх тавараў. Што гэта магчыма, аб тым найлепш сьведчаць нядаўна арганізаваныя коопэратывы ў некатoрых мясцох нашага Палесься, аднаго з найболш глухіх куткоў нашага краю. На Палесьсі ў некаторых мясцох сяляне-гаспадары арганізавалі супольна-коопэратыўную лоўлю і прадажу рыбы, адсоўваючы набок розных чорных пасярэднікаў, якія на прадажы рыбы рабілі добрыя інтарэсы. Зразумела, што ў другіх мясцох нашага краю гаспадары могуць наладзіць супольна-коопэратыўную прадажу іншых тавараў, якімі багата іх старонка.

Як шмат зарабляюць у гандлі розныя пасярэднікі відаць хоць-бы з наступнага факту: у 1935 годзе спажыўцы ў Польшчы заплацілі за рагатую скаціну 291 мільён злотых, з чаго гаспадары скаціны атрымалі ўсяго 134 мільёны, а рэшту 157 мільёнаў палажылі сабе ў кішэнь розныя гандлёвыя пасярэднікі.

Адсюль бачым, што нашыя сяляне-гаспадары ня толькі пераплачваюць лішнія грошы, купляючы розныя тавары для сябе ў прыватных крамах, але яшчэ больш ім гаспадарам не даплачваюць розныя гандлёвыя пасярэднікі, забіраючы ад гаспадароў тавары менш як за поўцаны.

Вось таму без сваей коопэратыўнай куплі-прадажы мы хоцькі ня хоцькі аддаем так шмат грошай некаму трэцяму без патрэбы, задарма. І вось таму кожны сьвядомы чалавек на вёсцы мусіць паважна аднесьціся да справы арганізацыі сваіх коопэратываў.

Праўда, сучасныя абставіны вясковага жыцьця ня вельмі спрыяюць шырокаму разьвіцьцю вясковай коопэрацыі.

Аднак на вёсцы заўсёды знойдуцца людзі, якія займуцца выключна гаспадарчымі справамі і тады, трэба спадзявацца, і мясцовыя ўлады пойдуць на спатканьне такім адзінкамі.

Сучасны Урад належна ацэнівае ролю вёскі ў жыцьці Дзяржавы і клапоціцца пра тое, каб палепшыць вясковае жыцьцё. Але, каб гэнае палепшаньне наступіла як найхутчэй, неабходна і нам самім шукаць спосабаў направы нашага жыцьця. Адным з такіх спосабаў зьяўляецца арганізацыя сваіх коопэратываў. Пра гэную справу мы забыліся і цяпер аб ёй іззноў трэба памятаць.

# Сьцягваньне падаткаў з буйных земляўласьнікаў.

У часе рэвізіі, зробленай нядаўна ў адным з паветаў, прэм'ер-міністар генэрал Славой-Складкоўскі зьвярнуў увагу на тое, што ўласьнікі вялікіх двароў маюць вялікія падатковыя залегласьці, а 55 двароў у працягу двух апошніх гадоў не заплацілі ніводнага злотага на пагашэньне задоўжанасьці або ў лік належных падаткаў.

У сувязі з гэтым віцэ-міністар скарбу Сьвітальскі выдаў распараджэньне, якім загадваецца, каб скарбовыя палаты і ўрады незабаўна пачалі сьцягваць залегласьці і падаткі з уласьнікаў буйнае нярухомасьці, пры гэтым, калі дзеля пагашэньня належных сумаў мала будзе налажыць сэквэстар на тую ці іншую рухомасьць, дык пазваляецца сэквэстраваць нярухомасьць і забіраць на карысьць дзяржавы. У апошнім выпадку не павінна мець значэньня і тое, што ёсьць вялікія гіпотэчныя запісы, з прычыны якіх ёсьць прывілеяваныя прэтэнзыі крэдытараў, задавальняныя ў першую чаргу.

Калі гэткі сэквэстар і ня дасьць патрэбных матар'яльных рэзультатаў, г. знач. не пакрые падатковае задоўжанасьці, дык усё-ж такі сьцягваньне павінна быць зроблена, таму што гэта будзе мець вялікае значэньне. Сыстэматычны і бяскарны неплацеж падаткаў буйнымі земляўласьнікамі распусна ўплывае на дробных земляўласьнікаў.

У апошняй сваёй часьці распараджэньне папярэджвае падатковых вураднікаў: калі ўстаноўлена будзе, што з віны падатковых устаноў паўсталі падатковыя залегласьці буйных земляўласьнікаў, пры чым ролю гралі слабая прадпрыімлівасьць вураднікаў або іх добрыя адносіны з земляўласьнікамі (паляваньні і інш.), дык вінаватыя вураднікі павінны быць у гэткіх выпадках зараз-жа звальнянымі і цягненымі да адказнасьці.

# Пасьля вакацыяў.

Пэрыяд вакацыяў і ўрлёпаў скончыўся. Вяртаемся ўсе з адпачынку да звычайных штодзенных жыцьцёвых клопатаў. Самі мы неяк агранічваем свае патрэбы, але затое мусімо паважна прызадумацца над тым, каб пакрыць расходы, зьвязаныя з паваротам нашых дзетак у школы; плата за навуку, кніжкі, сшыткі, навуковыя прылады — усё гэта разам творыць даволі вялікую суму, якую не заўсёды ведама скуль узяць. Можна выйграць на Лётарэі... Гэта праўда, але нажаль шмат хто з нас не падумаў у часе вакацый аб тым, каб купіць лёс і гэтым самым згубіў шансу пазбыцц клопатаў.

На шчасьце ня ўсё яшчэ прапала. Можна яшчэ купіць лёс для чацьвертай клясы трыццаць шостай Дзяржаўнай Лётарэі і спрабаваць шчасьця. Праўда, трэба будзе заплаціць цану лёсу і за папярэднія тры клясы, але за тое ня трэба доўга чакаць на вынік, які прынясе ўжо найбліжэйшая будучыня. А будучыня гэтая прадстаўляецца вельмі павабна, бо галоўны выйгрыш выносіць мільён злотых, а побач з ім тры выйгрышы па сто тысячаў, чатыры па семдзесят пяць тысячаў, дзевяць па пяцьдзесят тысячаў і г д.—агулам больш шэсьцьдзесят аднэй тысячы выйгрышаў на суму дзевятнаццаць мільёнаў трыста восемдзесят тысячаў чатырыста злотых. Усё гэта будзе раз'іграна між дзевятым і дваццаць восьмым верасьня г. г.

Зразумела, што тыя, каторыя не спынялі йгры ў папярэдніх клясах, плацяць толькі цану лёсу аднэй чацьвертай клясы.

Аднак памятайма, што трэба прысьпешыць куплю лёсу, бо цягненьне ўжо блізка.

# Нелегальныя газэты ў Савецкай Беларусі.

Як пішуць савецкія газэты, у Менску, Магілёве, Гомэлі і ў Смаленску знойдзены паперы ня зусім звычайнага (для бальшавіцкага вока) зьместу:

— Картачкі з, адбітымі розным кустарным прыладзьдзем, артыкуламі *эмігранцкіх — „белагвардзейскіх“ газэт.*

Якіх якраз газэт, „Комсомольская Правда“ ня кажа, хоць піша пра гэта даволі шырока. Аднак констатуе такі, што ў пашыраных картачках закрануты былі, паміж іншым, гэткія пытаньні: ці ў СССР будуецца соцыялізм, ці нешта іншае ды ці можа быць збудованы соцыялізм у аднэй краіне і інш.

Знайшліся нарэшце і вінаватыя. Аказалася, што студэнты інстытуту савецкага права гэтым займаюцца дый да таго-ж „зусім адкрыта“. Эміграніцкія газэты даходзілі да іх часьцёва шляхам паўлегальным, з ліку газэт, якія атрымліваюцца народнымі камісарыятамі справядлівасьці ды асьветы, а таксама вышэйшымі партыйнымі камітэтамі Беларусі. Дабываліся газэты і зусім нелегальна — праз контрабандыстых.

*Тое, што студэнты вычыталі ў гэтых газэтах, яны з запалам абгаварвалі на сваіх сходках.* Начальства, пэўна-ж, аб гэтым ведала, але яно глядзела „лібэральна“: маладыя людзі вучацца, ім трэба выпрацаваць выразныяз паглядыі, а гэта немагчыма бяз веданьня розных пунктаў гледжаньня.

Намесьнік народнага камісара справядлівасьці Беларусі Глезераў лічыў сябе пераконаным камуністым, але таму якраз і казаў:

— Перакананьня ў перавазе камунізму нельга дасягнуць, ня ведаючы пра іншыя концэпцыі. Калі ўжо мы верым у сілу нашае ідэолёгіі, дык мы павінны не перашкаджаць, а спасобнічаць азнаямленьню моладзі з іншымі ідэолёгіямі па першакрыніцах.

Па загаду Масквы, ўсе менскія дзеячы залічаны ў катэгорыю „троцкістых“, у тым ліку і студэнты.

Сьледзтва па гэтай справе яшчэ ня скончана.

Як відаць з усяго гэтага, студэнты ў Савецкай Беларусі ня маюць права дыскутаваць над маскоўскімі загадамі, бо сьветагляд для іх абавязковы толькі той, які ў Менск прыходзіць ужо гатовенькім, пераваранымі у крэмлёўскай кухні.

# Колькі чалавек служыць у дзяржаўных установах Польшчы?

Як відаць з дзяржаўнага бюджэту на 1936-37 г., лік працаўнікоў разумовае працы на дзяржаўнай службе ў Польшчы раўняецца 446.000 чалав., з якіх у дзяржаўных прадпрыемствах маюць працу 191.000 чалавек. Настаўнікаў ёсьць 77.000 чалавек, у адміністрацыі служыць 255.000 чалавек, 100.000 з якіх—ніжэйшыя функцыянэры.

**Грамен.**

*МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.*

# Адпачынак у Сочы.

(*З савецкага быту. Перакл. з расейскага К. М.*).

А ўжо-ж, па дарозе ў Сухум, мы прыехалі з жонкаю ў Сочы.

Сочы — ніштo мястэчка. Тут ёсьць санаторыя „Рывьера“, а пры „Рывьеры“—парк з рознымі пальмамі, Чорнае мора і рэстаран.

Толькі вельмі ня першае клясы рэстаран. Дорага і нясмачна. Нават у нашай установскай сталоўцы можна паесьць куды лепш і таньней, хоць лепей не рабіць гэтага.

А калі выйдзеш з рэстарану і з парку,—ісьці больш няма куды: ува ўсіх іншых месьцейках—гразна і сумна. Можна-б, ведама-ж, пайсьці на прыстань, але нашто-ж? Цеплаход-экспрэс, на якім нам ехаць, позьніцца. Павінен быў прыйсьці а 12-ай, а прыйдзе а 4-ай. У Сухум, значыцца, прыедзем уночы.

Чаму позьніцца цеплаход, ніхто ня можа вытлумачыць. Але заўсёды, кажуць, позьніцца.

Паміж іншым, настрой мае жонкі робіцца ўсё болей непажаданым.

Я знаходжу, што жанчыны вельмі вымагальныя: у вагоне горача—ім не падабаецца, гразь навокал—таксама не падабаецца, цеплаход спазьніўся—не падабаецца. Ніштo не падабаецца. Вельмі трудна з імі.

На цеплаходзе вельмі добра.

Вялікае задаволеньне ехаць у ім па моры. Гэта нават мая жонка прызнала, калі ачухалася ад пераjжытых цяжкіх адчуваньняў.

Адчуваньні былі зроджаны пераездам на цеплаход. Бо-ж ён затрымліваецца далёка ад берагу. І на яго перавозяць ня катэрам, а нейкаю заслужанаю чайкаю, каторая прывязана доўгаю вяроўкаю да маторнае скрыначкі. Яна вельмі гойдаецца, і калі прыходзіць да цеплаходу, дык увесь час цікуе адлучыцца ад трапу на паўмэтра і нават на мэтр. Шмат каму гэта не падабаецца. Асабліва жанчынам, у якіх дзіцянё на руках і якія ніколі не працавалі ў цырку. Шкада ім дзіцяняці, калі раптам высьлізьнецца ў мора. Праўда, акулаў у Чорным моры няма, але ўсё-ж такі няпрыемна.

Некаторыя пытаюцца: — Ці-ж можа быць што сумнейшае на сьвеце за повесьць аб Ромэо і Джульеце?

А спрабавалі-б яны прасядзець усю ноч на Сухумскім марскім вакзале. Тады ведалі-б!

Вельмі гэта сумна. І антысанітарна вельмі. І рабіць няма чаго. І няма куды падзецца.

Зыйшоўшы з цеплаходу, мы, ведама-ж, рашучымі шагамі скіраваліся да гасьцініцаў. Іх тры. Але ні ў аднэй нам, як і шмат каму, нават дзьвярэй не адчынілі. Толькі сьмяяліся ды крычалі ў шыбы ў дзьвярох:

— Дарма турбуеце сябе, грамадзяне! Усё пазаймана!

І вось прышлося сядзець да раніцы на вакзале.

Жонка мая рэагавала на гэта вось як:

— Трэба быць зыйшоўшым з глузду ідыётам, каб ехаць у Сухум без санаторных *пуцёвак*!

Я, аднак-жа, ня мог з ёю згадзіцца. Бо-ж мы з жонкаю на ніштo ня хворыя, чаго я сабе і не жадаю. Нашто-ж пхаць здаровых людзей у санаторыі? Мае-ж права чалавек паехаць у Сухум не для лекаў, а так сабе, таму што яму захацелася? Усё гэта я вытлумачыў жонцы (сама яна ня цяміць) і папрасіў яе не хвалявацца.

Але яна, аказваецца, і ня думае хвалявацца. Ей усё роўна як. Усё роўна яна раніцай паедзе самаходам назад. Ніводнае мінуты. Яна пастанавіла.

Гэтую пастанову яна адзначыла толькі тады, калі я пакінуў яе апратэстоўваць. Тады яна сказала, што застаецца, але апошні раз.

Пад вечар нам здорава пашэнціла: мы знайшлі і нанялі пакой. Ніштo сабе. Нават з ложкам, толькі на ложку нічога няма і ў пакоі няма нічога, апрача ложка. Але затое танна. Гаспадыня сказала:

— Таму і здаем нядорага, што ня кожны наймае; побач мой сын усю ноч на радыё грае і пяе пад яго, так што спаць кватэрантам труднавата. Ну, але вы-ж не працаваць прыехалі, а адпачываць.

А якое мора! Дзеля аднаго мора варта было прыехаць. Ды яшчэ можна купацца. Толькі нельга: няма ў чым. І нідзе нельга купіць нічога гэткага, што апранаюць дзеля купаньня. Аказваецца, гэта трэ' было вязьці з Масквы: у Маскве яно ёсьць, хоць там і няма мора.

Я, праўду кажучы, знайшоў выхад: прарэзаў у навалачцы дзьве дзіркі для ног, а адкрыты бок падперазваю вяровачкай. Праўда, навалачка, калі намокне, надуваецца быццам бугаёў пузыр, і тады нельга нурца даваць. Але затое ня ўтопішся. У крайнім выпадку, пад вадою застанецца толькі галава, а рэшта ўсё—будзе плаваць.

Аднак жонка мая купацца ў навалачцы не згаджаецца: яна, бачыце, ня хоча быць насьмехішчам. Чыім—невядома; мяне дык усё гэта ані на капельку ня сьмешыць.

Напісаў пісьмы. Занёс на пошту. На пошце, аказваецца, няма канвэртаў. І ня бывае. Іх наагул трэ' было вязьці з сабою з Масквы.

Аднёс пісьмы дамоў.

Вось і месяц прайшоў. Дамоў адзін паеду. Жонка едзе не са мною, а з нейкім сваім чалавекам. Кажа, лепш умее ўстройвацца. Кажа, што, як яму здаецца, падурному было ехаць бяз *пуцёўкі*, без канвэртаў і бяз купальных трусоў.

Ну што-ж: можа ён лепш умее езьдзіць. Я аб сабе ўжо сказаў: курорты не для мяне.

(„Крокодил“).

# На гішпанскім фронце.

Тры гішпанскія міліцыянэры прыбылі 7 г. м. ў Гендай з гвадэлупскага форту. Яны пацьверджаюць паведамленьне аб захопе паўстанцамі Фонтарабіі. Пасьля атрыманьня помачы з Пампэлюны сілы паўстанцаў на гэтым фронце становяць 6.000 чалавек. Вялікія сілы напраўлены на Сан-Сэбастыян.

— —

Апошняя атака паўстанцаў, якая канчальна аддала Ірун у іх рукі, трывала ўсяго толькі поўгадзіны. Танкі і браніраваныя самаходы паўстанцаў зламалі апошняе сапраціўленьне міліцыі. Паўстанцы ў Іруне, усьцешаныя перамогай, кідаліся адзін другому на шыю і пелі радасныя песьні. Увесь Ірун прадстаўляе сабой страшны абраз. Хаты, якіх абмінулі пажары—стаяць бяз вакон і дзьвярэй. Усе жыхары, якіх было 12.000 чалавек, пакінулі горад. Застаўся толькі адзін чалавек, доктар, які аддаўся пад апеку францускага консуля. 5000 жыхароў перайшлі на францускую тэрыторыю, рэшта, відаць, выехала ў Сан-Сэбастыян.

— —

Француская прэса, абгаварваючы стратэгічныя рэзультаты захопу Іруну, прадбачыць, што сапраціўленьне ўрадовых войскаў лопне цяпер і ў Сан-Сэбастыяне. Пасьля гэтага нацыяналісты змогуць перакінуць свае войскі з гэтага фронту на мадрыцкі.

— —

Офіцыяльна паведамляецца, што паўстанцкія войскі ў сучасны мамэнт знаходзяцца ў 4 кілёмэтрах ад Сан-Сэбастыяну.

Палкоўніку Ягуа прыказана ў бліжэйшым часе апрацаваць плян наступленьня на Мадрыт.

— —

8 г. м. ў 12 гадзін дня над фортам Гвадэлюпа пачаў рэіць чырвона-залаты сьцяг, што сьведчыць аб тым, што ўвесь форт канчальна захоплены паўстанцамі.

— —

Корэспондэнт Гаваса паведамляе, што ў Сан-Сэбастыяне зусім спакойна. Паўстанцы скідываюць з самалётаў лятучкі, у якіх заяўляюць аб хуткім наступленьні. Усюды рэюць чырвоныя сьцягі, і толькі недалёка семафору ў Пасахэс вывешаны белы сьцяг.

З боку ракі Анхо паўстанцы знаходзяцца ў 4 кілёмэтрах ад Сан-Сэбастыяну, а з боку Хэрнані—ў 9 кілёмэтрах, бо падыйшлі ўжо да брамаў гарадоў Пасахэс і Рэнтэрыя. Паўстанцкія самалёты скінулі некалькі бомбаў на Хэрнані.

Можна дапушчаць, што баскійскія нацыяналісты прымуць усе меры, каб здушыць анархістаў і не дапусьціць да бомбардоўкі і зьнішчэньня Сан-Сэбастыяну. Дзеля гэтага чакаецца, што Сан-Сэбастыян у бліжэйшым часе скапітулюе.

— —

У Сан-Сэбастыяне вайсковы суд за ўчасьце ў паўстаньні прыгаварыў да расстрэлу ген. Муслера і палкоўніка Бассэльга. Сьмертная кара ўжо выканана.

Народны трыбунал у Навалёс (у раёне Уэскі) прысудзіў на сьмертную кару 3-х фашыстаў. Прысуд выкананы.

— —

Асобая брыгада, якая вядзе „барацьбу з фашыстамі ў тылох", напала на сьлед законспіраванай узброенай групы, якая манілася зрабіць налёт на адну з радыястанцыяў у Мадрыце дзеля пашырэньня непраўдзівых вестак з мэтаю выкліканьня перапалоху ў тылох. Арыштавана 48 чалавек.

— —

Штаб ген. Франко паведамляе, што паўстанцы захапілі Сьерра Прэдос і што такім чынам дарога ў Мадрыт адчынена. У Бургосе адбылася нарада між генераламі Франко і Мольлё ў справе хутчэйшага захопу Мадрыту.

— —

З Мадрыту паведамляюць, што гішпанскія юнкеры пакінулі крэпасьць Альказар у Толедо і захапілі рад будынкаў каля крэпасьці.

У характары парлямэнтара ад урадовых войскаў у Альказар быў пасланы маёр Ройо, каторы павінен быў абгаварыць з паўстанцамі ўмовы капітуляцыі. Асаджаныя завялі Ройо ў падзямельле, дзе схаваліся жанчыны і дзеці, і заявілі, што адмаўляюцца весьці перагаворы аб капітуляцыі і выпусьціць з падзямельля як узятага ў палон, так і знаходзячыхся там жанчын і дзяцей. У выніку гэтага ўрадовыя атрады пачалі ізноў бомбардаваць крэпасьць.

# Бунт у партугальскім флёце.

8 г. м. раніцай успыхнуў бунт на двох крэйсерах і мінаносцы. Берагавая артылерыя пачала абстрэліваць збунтаваўшыяся параходы. Снарады некалькі разоў папалі ў гэтыя параходы і нанясьлі ім паважныя шкоды. Урэшце дзяржаўным войскам удалося арыштаваць экіпаж збунтаваных параходаў, а крэйсеры і мінаносца зацягнуць у порт.

У часе бомбардаваньня параходаў 6 матросаў было забітых, а 9 раненых.

# Італія і СССР.

З Рыму паведамляюць, што, у сувязі з намерам скліканьня канфэрэнцыі пяці вялікіх дзяржаваў, каторая павінна разглядзець цэлы рад важных эўрапэйскіх пытаньняў, Італія ня будзе выступаць проці запросінаў на гэтую канфэрэнцыю СССР. Фашыстоўскі ўрад заўсёды меў на думцы тое, што Савецкая Расея павінна прыймаць ўдзел у разважаньнях над эўрапэйскімі праблемамі.

Гэтае становішча Італіі асабліва падчырківаецца цяпер пасьля дэклярацыі, зробленай Гэбэльсам пасьля яго павароту з Вэнэцыі. Як ведама, нямецкі міністар прапаганды заявіў, што Нямеччына і Італія супольна створаць сьцяну дзеля затрыманьня бальшавіцкіх уплываў. Тымчасам становішча Італіі адносна СССР зусім іншае і неадказвае заяўленьням Гэбэльса.

# Заклік нэгуса.

У сувязі з маючымся адбыцца сабраньнем сяброў Лігі Народаў нэгус зьвярнуўся да ўсяго сьвету з заклікам, у каторым просіць прычыніцца да міру ў Абісыніі, дзьве трэці каторай яшчэ не захоплены італьянцамі. У гэтай часьці Абісыніі існуе незалежны абісынскі ўрад.

„Я, — заяўляе нэгус — ад імя гэтага ўраду зьвяртаюся да дзяржаваў, якія гарантавалі незалежнасьць Абісыніі, з просьбаю споўніць свой абавязак.

## Японска-кітайскі канфлікт.

У часе анты-японскіх дэманстрацыяў у Пакхоі (Кітай) быў забіты японскі купец Накано.

У сувязі з гэтым японскі генэральны консуль у Кантоне заявіў старшыні Гуандунскага правінцыяльнага ўраду пратэст. Японскай кананерцы, якая знаходзілася ў кантонскім порце, загадана зараз-жа адправіцца ў Пакхой.

У адказ на гэта кітайскія ўлады згодна з інструкцыяй Чэн-Кай-Шэка патрэбавалі ад японцаў, каб забралі свае параходы з Пакхоі. Кітайскія ўлады звароч-ваюць увагу, што недалёка Пакхоі знаходзіцца 19 армія, незалежная ад Нанкіна і дзеля гэтага зьнімаюць з сябе ўсякую адказнасьць за рэзультаты, якія могуць паўстаць у сувязі з прабываньнем японскіх параходаў у Пакхоі.

## Англія—і калёніі для Нямеччыны.

Ангельская газэта „Таймс", абгаварваючы заяўленьне Гітлера ў Нюрэнбэргу, піша, што Англія ніколі ня прыступіць да сур'ёзнага разгляду пытаньня аб звароце Нямеччыне калёніяў, пакуль не ўрэгулююцца ўзаемнаадносіны Нямеччыны і вялікіх заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў і пакуль Нямеччына не адмовіцца карыстацца вайной, як спосабам сваёй палітыкі.

# З краю.

## Адчыненьне новай сэсыі Сойму.

У польскіх палітычных колах гавораць, што скліканьне Сойму будзе прысьпешана. Відаць, адчыненьне новае сэсыі Сойму адбудзецца ў сярэдзіне кастрычніка. У працягу першых 6 тыдняў парлямант будзе абгаварваць і зацьвярджаць законапраэкты гаспадарчага і агульнага характару, а пасьля прыступіць да апрацоўкі новага буджэтнага прэлімінара.

У сучасны мамэнт усе міністэрствы атрымалі загад прысьпешыць ход законадаўчых працаў дзеля таго, каб у час прадставіць законапраэкты на разгляд Сойму.

## У саюзе дзяржаўных працаўнікоў.

Саюз дзяржаўных працаўнікоў рыхтуецца да кампаніі на карысьць павялічаньня заробкаў у 1937-38 буджэтным годзе. У асаблівасьці Саюз будзе дамагацца ўвядзеньня аўтаматычных павышэньняў і так званага „дадатку на сям'ю для працаўнікоў". Выпаўненьне гэтых дамаганьняў пацягнула-б за сабой павялічэньне расходаў скарбу на 180 мільёнаў злотых.

## Парад у Львове.

14 г. м. ў Львове адбудзецца вайсковы парад, каторы будзе самым вялікім за ўвесь час існаваньня незалежнай Польшчы. У гэтай урачыстасьці прыймуць учасьце 50.000 салдатаў усіх родаў аружжа. Агляд войскаў зробіць генэральны інспэктар арміі ген. Рыдз-Сьміглы.

Рэвія пачнецца ў 11 гадз. дня, а скончыцца ў 5 гадз. веч.

На вуліцах Львова будуць збудаваны трыбуны для публікі.

У сувязі з львоўскім парадам міністэрства камунікацыі арганізуе рад асобых цягнікоў у Львоў (ад 11 да 17 верасьня). У часе зьезду кошт падарожжа ў Львоў будзе выносіць 66% нармальнай цаны білету.

## Зьніжкі на чыгунках.

Да канца верасьня ўсе тыя, што хочаць адведаць усходнія часьці Польшчы і Вільню плаціць за праезд 50% нармальнай цаны білету. Тыя-ж, што хочаць зьведаць Усходнюю Ярмарку ў Львове, у паваротнай дарозе плаціць толькі 75% нармальнай цаны білету. Дзеля атрыманьня зьніжковага білету трэба прадставіць турыстычную картачку, якую можна атрымаць бясплатна ўва ўсіх турыстычных бюрох.

## Міністар Басьцід у Варшаве.

12 г. м. прыбыў у Варшаву францускі міністар гандлю і промыслу Поль Басьцід, якога сустрэлі на станцыі міністар гандлю і промыслу Роман, прадстаўнікі міністэрства замежных справаў і францускага пасольства.

# З усяго сьвету.

— У Нямеччыне апрацоўваецца законапраэкт аб канфіскаце вялікіх двароў і падзеле іх між сялянамі. Падобны праэкт апрацавалі ў свой час Брюнінг і фон Шляйхер, але на яго налажыў вэто Гіндэнбург. У Нямеччыне 25% усей зямлі зьяўляецца ўласнасьцяй 22.000 абшарнікаў.

— Ня гледзячы на італьянскія запярэчаньні, рымскі карэспондэнт ангельскае газэты „Таймс" цьвердзіць, што Муссоліні ўсё-ж такі пастанавіў адведаць Гітлера. Паездка адбудзецца ў другой палове верасьня.

— У „сьвята працы" ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі зарэгістравана вялікая колькасьць нешчасьлівых выпадкаў. Згінула 244 чалав.—ахвяры вулічнага руху.

— Амэрыканская пісьменьніца Фаньні Хэрст, аўтар ведамай фільмы „Бэкк-стрыт" атрымала ад фірмы Мэтро-Гольдвін за свой новы твор „Вялікі сьмех" 100 тысячаў даляраў, што зьяўляецца рэкордам за ўвесь час існаваньня кінематографу.

— Грэцкі ўрад зацьвердзіў праэкт, паводле каторага на вяршыне гары Олімпу, на вышыні 2.900 мэтраў будзе высечана вялізарная галава Юпітэра.

— Камуністычная француская газэта „Юманітэ" надрукавала рэзкі артыкул, у каторым выказывае пратэст проці таго, што сэкрэтароў Троцкага ўпусьцілі ў Францыю. Газэта дамагаецца, каб за імі ўважна сачылі і не далі ім магчымасьці рабіць у Францыі троцкаўскія інтрыгі.

— Згодна з статыстычнымі дадзенымі, колькасьць безработных у Чэхаславаччыне ў канцы жніўня паменшылася да 480.340 чалавек (у канцы ліпня ў Чэхаславаччыне было 508.081 безработны).

— У вялікім мэксыканскім кінематографе паказывалася драма з жыцьця амэрыканскіх ковбояў (пастухоў). Нечакана, у самы патэтычны мамэнт, адзін з глядзельнікаў вынуў рэвольвэр і стрэліў у экран. Ен гэтак захапіўся, што пастанавіў умяшацца ў падзеі на экране. Сярод публікі паўстаў перапалох.

Пасьля гэтага выпадку мэксыканскія ўлады абвесьцілі пастанову, якая забараняе прыносіць з сабой аружжа ў кінематограф.

— „Дэйлі тэлеграфу" паведамляюць з Дальтону аб тым, што натаўп мясцовых жыхароў ноччу напаў на дальтонскі вастрог і, вырваўшы з рук стражнікаў арыштанта—нэгра, які абвінавачваўся ў нападзе на белую жанчыну, зьлінчаваў яго.

— Пракуратура СССР закончыла сьледства ў справе Бухарына і Рыкава, якое было пачата ў сувязі з паказаньнямі некаторых абвінавачаных у працэсе Зіноўева—Каменева. Сьледства ўстанавіла, што ніякіх праўных асноваў для пацягненьня да адказнасьці Бухарына і Рыкава няма. Дзеля гэтага сьледства спынена.

Адносна-ж Радэка, Угланава і Пятакова, западозраных у супрацоўніцтве з расстрэлянымі троцкістамі, няма ніякіх вестак. Артыкулы Радэка ня друкуюцца ў „Извѣстіях" ужо ад 21 жніўня.

— Прэм'ер Блюм атрымоўвае шмат заяваў ад розных рабочых арганізацыяў, якія выяўляюць салідарнасьць з урадовай палітыкай нэйтралітэту адносна Гішпаніі. Вярхоўная рада саюзу чыгуначнікаў выразіла прэм'еру свой давер і пратэст проці камуністаў, якія са шкодай для дзяржавы выклікаюць палітычныя забастоўкі.

— Паводле дадзеных жыдоўскага альманаху, лік жыдоў у Нямеччыне ад 1933 году паменшыўна 100.000 чалавек. 83 тысячы эміграваль заграніцу.

**Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ".**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.